СВАБОДА
6 — 12 верасьня 1994 г.
№34
Кошт 40 рублёў

# 8 верасьня — Дзень беларускай вайсковай славы

**На гэтым тыдні ў буйных гарадах Беларусі будуць адзначацца 480-я ўгодкі Аршанскай бітвы.**

8 верасьня ў Менску БНФ ладзіць урачыстае шэсьце з удзелам рыцарскай коньніцы. Яно пачнецца а 18.30 у парку Янкі Купалы, а завершыцца каля Опэрнага тэатру сьвяточным мітынгам і вялікім канцэртам зорак беларускай эстрады. У гэты самы час на пляцы Якуба Коласа наладжвае сьвяточную імпрэзу БЗВ.

9 верасьня адбудуцца ўрачыстасьці ў Берасьці й Гомлі, 10 — у Горадні й Магілёве, 11 — у Віцебску, дзе, нягледзячы на забарону ўладаў, сьвята ўсё ж будзе адзначацца.

А пачалося сьвяткаваньне 3 верасьня на Крапівенскім полі пад Воршаю, дзе быў асьвечаны помнік у гонар слаўнай перамогі нашых продкаў і адбыўся мітынг *(глядзіце стар. 2)*.

Тымчасам антыбеларускія сілы паднялі гвалт і патрабуюць ад уладаў забараніць сьвяткаваньне Дня беларускай вайсковай славы.

Паводле нашых зьвестак, улады зьбіраюцца адрэагаваць «досыць стрымана».

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ

## TV 6 каналаў



# Скандал у прэзыдэнцкай сям'і

**Тымчасам як прэзыдэнт Лукашэнка публічна клянецца-божыцца, што ягоная каманда «суперчэстная и суперпорадочная», некаторыя прадстаўнікі гэтай самай каманды займаюцца досыць сумнеўнымі справамі.**

Нядаўна, прыкладам, «уляпаўся» ў гісторыю Дзьмітры Булахаў. Пра гэты выпадак ведае амаль увесь прэзыдэнцкі апарат, а таксама колы, блізкія да адміністрацыі. Але больш за ўсіх ведае сам прэзыдэнт. Аднак не расказвае. Таму давядзецца расказаць нам. Калі будуць якія недакладнасьці, спадзяемся, што прэзыдэнт знойдзе магчымасьць удакладніць.

Дык вось. Тэлефануе аднойчы прэзыдэнту генэральны дырэктар салігорскага «Беларуськалія», прабіўся да Лукашэнкі ды скардзіцца: Аляксандар Рыгоравіч, спыніце Булахава, бо Дзьмітры Пятровіч настойліва «рэкамэндуе», каб я прадаў 50 тыс. тон калійных угнаеньняў камэрцыйнай фірме — Першаму інвэстыцыйнаму фонду, каб той, у сваю чаргу, мог перапрадаць іх на Захад і зарабіць трохі даляраў, бо ён, маўляў, зусім бедны. Але я не магу зрабіць гэткую паслугу, бо вы ж першы абвінаваціце мяне потым у карупцыі, — кажа Лукашэнку дырэктар. І пытаецца: дык як быць — слухаць Булахава ці рабіць так, як выгодна дзяржаве...

**Нам невядома, што канкрэтна параіў прэзыдэнт. Аднак дакладна ведаем, што Лукашэнка запрашаў да сябе сп. Булахава і гаварыў зь ім на гэтую тэму. Падрабязнасьцяў размовы, апрача іх дваіх, ніхто ня ведае.**

Антон КАПЛІЦА

На здымку: Дзьмітры Булахаў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
Ігар ГЕРМЯНЧУК

Заснавальнік Павал ЖУК

Выдавец
«Газэта СВАБОДА», Ltd.

Наклад 45 000

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск,
вул.Іванаўская, 56

Тэл. 36-24-41



# Лукашэнка чытае газэты

## Але нам гэтага мала

**Выступаючы ў мінулую сераду па тэлевізіі, Аляксандар Лукашэнка заявіў, што апублікаваныя ў газэце СВАБОДА зьвесткі пра сумнеўную дзейнасьць аднаго з чыноўнікаў прэзыдэнцкай адміністрацыі спраўдзіліся, і таму «мы адправілі яго туды, адкуль ён прыйшоў». Меўся на ўвазе Іосіф Вялента — шэф прэзыдэнцкай юрыдычнай управы, запрошаны ў апарат з Горадні па пратэкцыі (наколькі нам вядома) Віктара Ганчара.**

**Аднак гэты факт зусім ня значыць, што з прыходам новага рэжыму беларуская прэса нібыта набыла моц «чацьвертай улады». У пэўнай ступені гэта выпадковасьць, што прэзыдэнт адрэагаваў на крытыку газэты — захацелася яму так (а наступным разам не захочацца). Між тым, прэсу можна лічыць «чацьвертай уладай» толькі тады, калі кіроўны істэблішмэнт, незалежна ад свайго жаданьня, вымушаны зьвяртаць на яе ўвагу. А на такі ўзровень беларускія СМІ змогуць узьняцца толькі пасьля таго, як стануць свабоднымі, незалежнымі ад улады. Аднак пакуль не відаць, каб новы рэжым хацеў адпусьціць дзяржаўную прэсу «на свабоду».**

**Кебіч, як вядома, на дух не выносіў газэту СВАБОДА і таму рознымі шляхамі імкнуўся нас забараніць. А як пры Лукашэнку? Пакуль, здаецца, забараняць нас не зьбіраюцца. Але там, дзе мы залежым ад дзяржавы, праблемы засталіся. Напрыклад, менскае дзяржаўнае прадпрыемства «Саюздрук» па-ранейшаму адмаўляецца браць у распродаж дастатковую колькасьць СВАБОДЫ. Менскія чытачы тэлефануюць у рэдакцыю і скардзяцца, што ня могуць набыць наш тыднёвік нават у дзень выхаду, бо шмат дзе яго раскупляюць раней за штодзённыя газэты. Такім чынам, відавочна, што і новыя ўлады не зацікаўленыя ў тым, каб пашыраўся ўплыў свабоднай прэсы. Дарэчы, з такіх самых абмежаваньняў пачынаў у свой час і сп. Кебіч. Дзе цяпер Вячаслаў Францавіч — усе ведаюць.**

Пятро ПАНКРАТОВІЧ

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі РБ "Белсаюздрук"

**АБАНЭМЭНТ** на газэту 63887

СВАБОДА — Колькасьць камплектаў 1

на 1994 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозьвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | Месца | літэр

на газэту 63887

СВАБОДА

Кошт: падпіскі 600 руб.; пераадрасоўкі руб. кап. — Колькасьць камплектаў 1

на 1994 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозьвішча, ініцыялы)

## Стой! Страляць буду!

**Як стала вядома карэспандэнту «Свабоды», ва ўрадавых структурах рыхтуецца рашэньне аб павелічэньні колькасьці ўнутраных войскаў.**

Мяркуецца стварыць новыя падразьдзелы Ўнутраных войскаў у буйных гарадах: Баранавічах, Бабруйску, Воршы, Наваполацку, Лідзе, Пінску ды інш. Гэта абгрунтоўваецца неабходнасьцю ўдзелу войскаў у барацьбе са злачыннасьцю і падтрыманьні грамадзкага парадку.

**Іван СІДАР**

## Дэпутатаў запрасілі ў Амэрыку

**Група дэпутатаў Вярхоўнага Савету Беларусі 12 верасьня выпраўляецца на 10 дзён у Злучаныя Штаты Амэрыкі.**

Паездку арганізоўвае пасольства ЗША ў Менску. Усе дэпутаты — Сяргей Антончык, Барыс Гюнтэр, Лявон Дзейка, Мікалай Мацкевіч, Аляксандар Паруль і Галіна Сямдзянава — упершыню едуць у Амэрыку.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# Лукашэнка вам яшчэ ня тое скажа...

Каляжанка, якая працуе ў адным зь менскіх ВНУ, распавядала, чым там займаліся шаноўныя дацэнты. Яны разважалі, як тэрмінова вышукаць і скасаваць магчымыя праявы нацыяналізму ў рукапісах падручнікаў і дапаможнікаў па беларускай мове. Які ўжо там нацыяналізм яны вымудрыліся «працягнуць» пад прыкрыцьцём суфіксаў ці дзеепрыслоўных словазлучэньняў, сказаць не бяруся.

А вось паведамленьне зь менскай сярэдняй школы №197, што ва Ўруччы. Бацькам вучняў толькі што створанай беларускамоўнай клясы (адзінай сярод сямі першых клясаў) «прапанавалі» перапісаць заявы на расейскамоўнае навучаньне. Сярод бацькоў, як і паўсюль, ніякіх ворагаў беларушчыны няма, большыня — паслухмяныя да абыякавасьці, а тыя сьведамыя бацькі, якія цьвёрда ведаюць, на якой мове мусяць вучыцца іхныя дзеці, баяцца, што ня здолеюць паўстрымаць гэтую кан'юнктурную хвалю і зьберагчы створаную клясу.

Што ж здарылася?

Славутая прэзыдэнтава заява пра «нацыяналістычныя» школьныя падручнікі, якія ён адправіць у макулятуру, аказалася не апошняю на гэтую тэму. Відаць, прэзыдэнту бракуе выйгрышных тэмаў, і ён узяўся за беларускамоўнае навучаньне.

Літаральна празь некалькі дзён у пэдагагічным унівэрсытэце А.Лукашэнка заявіў — пярэчачы Закону аб мовах — пра тое, што хай кожны «прэпадаёт» на той мове, на якой хоча (ці памятаеце незабыўнае дзямянцееўскае «хто как хаціт, тот так і гаварыт»? Але ж найдабрэйшы Мікалай Іванавіч быў усяго толькі сьпікерам...). Частка залы ўхвальна загула й заляскала, іншая — больш культурная — толькі абурана і скрушна пахітала галавой. Лукашэнка не знайшоў нічога лепшага, як у храме пэдагогікі па-казарменнаму пажартаваць: «Не качайце галавой, не думайце, што есьлі ў вас усы дліньнее, чэм у прэзідзента, то вам всё можна». Фэльдфэбэльскую рэпліку «народнага прэзыдэнта» зь лёту наматалі на вус зацятыя непрыхільнікі беларушчыны, а таксама паслужлівыя чыноўнікі з адукацыйнага ведамства.

Што ж, Прэзыдэнт так «раскрыўся». Памятаю, якая амаль эўфарыя панавала сярод г.зв. прафэсійнай беларускай інтэлігенцыі, калі ён прачытаў тэкст выступу на Дзень незалежнасьці 27 ліпеня па-беларуску.

Наагул кажучы, мае словы зараз скіраваныя да тых бацькоў, на якіх паспрабуюць «паўплываць» школьныя ўлады, да выкладчыкаў ВНУ, што пачалі чытаць па-беларуску. Не мітусіцеся, не перапісвайце заявы й лекцыі. Прэзыдэнцкія рэплікі, жарцікі, тырады ды эскапады яшчэ ня ёсьць Закон. А працэс зайшоў надта далёка. Каб "адкруціць" яго назад, трэба сама меней чатыры-шэсьць гадоў. За гэты час адбудуцца новыя выбары. Куды тады пойдзе вашае дзіця вучыцца далей пасьля школы? У расейскія ВНУ за валюту?

Давайце не забывацца: прэзыдэнты прыходзяць і сыходзяць, а мы, і нашыя дзеці, і Беларусь — застаемся.

**Вінцук ВЯЧОРКА**

**Гэта і ёсьць тое самае Крапівенскае поле пад Воршаю, дзе 8 верасьня 1514 г. наша беларускае шляхоцкае войска на чале з найвышэйшым гетманам Кастусём Астроскім перамагло ўтрая большую арду маскоўскіх захопнікаў, упісаўшы гэты дзень залатымі літарамі ў эўрапейскую гісторыю.**

***На здымку: урачыстасьці на Крапівенскім полі 3 верасьня адбываліся пад пільным наглядам некалькіх мясцовых міліцыянтаў.***



## Двое міліцыянтаў «пагарэлі» на салярцы

**Днямі супрацоўнікі Ўправы па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцяй зь Менску затрымалі ў Жабінкаўскім раёне групу злодзеяў, што схітрыліся выпампаваць проста з нафтаправоду 4 т дызэльнага паліва.**

Цікава, што сярод злачынцаў апынуліся старэйшы лейтэнант і капітан Берасьцейскага УУС.

***СІМ***

## Сёньня

**Сяргей ДУБАВЕЦ**

## Здэградаваная дэмакратыя

Моцныя ідэі застаюцца толькі пасьля моцных рэжымаў. Па-першае, таму, што такія ідэі для цэлых пакаленьняў становяцца ўвасабленьнем іхнае маладосьці. Па-другое, гэта выразная эстэтыка часу, парадак, адназначны падзел на дабро і зло. Варта згадаць сталінскі сацыялізм, гітлераўскі фашызм, рэжымы Пілсудзкага ў Польшчы, Сьмятоны ў Літве... Дагэтуль жывуць, думаюць, выходзяць на вуліцы людзі, для якіх гэта — ідэалы юнацтва, самыя чыстыя і сьветлыя на ўсё жыцьцё. А побач падрастае моладзь, для якой ТАМ, у тых рэжымах, — простыя адказы на самыя складаныя пытаньні. Можна ўсю палітыку, што робіцца ў сьвеце, разглядаць як лепшы ці горшы балянс розных настальгіяў і выхаваньняў.

Пра ўсё гэта пачынаеш думаць, калі чарговы раз чуеш пра стаўку сучаснага беларускага руху на тое, што «вырастуць дзеці», падымецца новае пакаленьне, і тады...

Для Беларушчыны сёньня і сапраўды зорны час. Ніколі яшчэ ў найноўшай гісторыі яна не дасягала такіх вышыняў. Але Беларушчына ня стала рэжымам. Гэта значыць, што яна ня стане настальгічным успамінам для сёньняшняга пакаленьня народу, дый наступным свае простыя адказы зноў давядзецца шукаць дзе-небудзь у Багушэвіча. Іншымі словамі, пры ўсіх посьпехах сёньня не закладаецца той дэтанатар, які рэальна працаваў бы на пэрспэктыву. «Дзеці падрастаюць», але падрастаюць як бы міма Беларушчыны. Адзін чытач «Свабоды» ў сваім лісьце трапна назваў іх клясай «новых менскіх правінцыйных расейцаў».

Магчыма, прычына тут — у так званым дэмакратызьме нацыянальных сілаў, які абяртаецца для іх самагубным і нікому не патрэбным прымірэнствам. Людзі, якія адстойваюць мову і дзяржаўнасьць, як і ў колішнія часы, лічаць патрэбным кожнага разу зрабіць кніксэн у бок Расеі, расейскай мовы і «русскоязычного населения». Кніксэн разьлічаны нібыта на публіку, але шанцы ў папулізьме пераўзысьці сёньняшняга прэзыдэнта — марныя. Такой «краты» дэмас верыць нялоўга. Датуль, пакуль ня прыйдзе валявы палітык і ня скажа, што ў інтарэсах пэўнай — большай альбо меншай — групы насельніцтва ён вымушаны паступіцца інтарэсамі астатніх. І толькі тады пачнецца поступ, як гэта адбылося ва ўсіх посткамуністычных краінах, дзе такі поступ ёсьць. Тады пачнецца ПАЛІТЫКА — рэальная, якая заўсёды і паўсюль мае ў грунце сваім натуральны адбор, а таму ня можа быць добрай для ўсіх або маральнай. Спрацуюць усе дэтанатары — настальгіі і выхаваньня — і пераможа той, у каго цьвярдзейшая воля. Палітык — ня поп і не народны артыст. Ён санітар, які ўсталёўвае парадак у сваёй забруджанай краіне. І калі палітык разграбае бруд «чыстымі рукамі», то ён або не палітык, або Фэлікс Эдмундавіч Дзяржынскі...

Дэмакратыя, якая пяць гадоў таму была найлепшай формай процістаяньня ранейшаму рэжыму, урэшце разбурыла яго і ператварылася ў непрадуктыўны папулізм. Пачаткі новага рэжыму — беларускага — могуць зьявіцца толькі як альтэрнатыва гэтай здэградаванай дэмакратыі.

## Данілаў і Каўко апранулі намэнклятуру ў камуфляж

**Пракуратура Рэспублікі праводзіць сьледзтва па факце зьнікненьня вялікай колькасьці камуфляжнай вайсковай формы, якая прапала няведама куды падчас леташніх паказальных вучэньняў пад Менскам войскаў грамадзянскай абароны.**

Частку пранажы сьледчыя ўжо знайшлі, дакладней, даведаліся, дзе яна знаходзіцца. Аказваецца, усе прысутныя на вучэньнях кіраўнікі абласцей, гарадоў і раёнаў паехалі дахаты з камплектамі навюткай камуфляжнай формы. Гэткі шчодры падарунак (агульны кошт формы ацэньваецца прыкладна ў 3,5 млн. рублёў) намэнклятура атрымала з распараджэньня тагачаснага кіраўніка справаў Саўміну сп. Каўко і з дазволу вядомага ўрадавага сакратара сп. Данілава. Апрача таго, высьветлілася, што ў гонар высокіх урадавых і правіцельных гасьцей пасьля вучэньняў быў наладжаны банкет, які каштаваў дзяржаве 9 млн. рублёў.

## Намесьнік міністра ўнутраных справаў ня стаў кітайскім шпёнам

**Нядаўна адбыўся інцыдэнт, зьвязаны са спробаю супрацоўніка пасольства Кітая ў Менску сустрэцца ў неафіцыйных абставінах з намесьнікам міністра ўнутраных справаў Валянцінам Агальцом.**

На адным з прыёмаў кітайскі дыплямат папрасіў знаёмага супрацоўніка міліцыі наладзіць гэтую сустрэчу, абмінуўшы каналы Міністэрства ўнутраных справаў. Сп. Агалец праз свайго калегу нібыта пагадзіўся і прызначыў час спатканьня. Пра гэта стала вядома беларускай контрвыведцы, якая палічыла згаданы эпізод за «спробу пранікненьня замежнай спэцслужбы ў органы ўнутраных справаў». У выніку двох кітайскіх дыпляматаў, прыехаўшы да сп. Агальца, на месцы яго не засьпелі, чым былі вельмі незадаволеныя. Намесьнік міністра ўнутраных справаў вырашыў, відаць, не рызыкаваць і пазьбег асабістага кантакту.

СІМ

## Прээзыдэнцкая «партыя» знайшла сабе занятак

**Першы дзень свайго адпачынку — 1-га верасьня — Сямён Домаш, старшыня Гарадзенскага аблвыканкаму, правёў у мясцовай тэлестудыі, адказваючы на пытаньні гледачоў у наўпроставым эфіры.**

Пра тэлеэфір жыхары былі папярэджаныя загадзя, таму паступіла нямала пытаньняў пабытовых — пра бульбу, брыкет, грамадзкі транспарт і г.д. Але асноўная мэта перадачы была іншая. Апошнім часам у Горадні распаўсюджваюцца чуткі пра нібыта дабрахвотную адстаўку старшыні аблвыканкаму. С.Домаш заявіў з тэлеэкрану, што ў такі цяжкі час нават і ня думае пакідаць пасаду. На ягоную думку, сёньня, калі ў краіне зьмянілася ўлада, знаходзяцца людзі, якія прагнуць давесьці, што яны таксама маюць у гэтым заслугу. Адначасова яны імкнуцца прыніжаць іншых — хто на сваіх пасадах займаўся й займаецца справаю. Гэта робіцца, каб выклікаць у апошніх няўпэўненасьць, знэрваваць іх, каб яны пачалі рабіць памылкі. Дзеля гэтага і распаўсюджваецца хлусьня пра старшыню аблвыканкаму. Абвяргаючы чуткі, С.Домаш раcпавёў, што робіцца ў вобласьці, каб хоць крыху зьменшыць цяжар эканамічнага крызысу.

Тады ў яго пацікавіліся, як ставіцца ўлады да Народнага саюзу «Очищение», які ўтварыўся ў Горадні з былой групы падтрымкі Аляксандра Лукашэнкі. Сямён Домаш адказаў, што калі пачуў пра Саюз, дык папрасіў у гарвыканкаме адпаведныя паперы пра ягоную рэгістрацыю. Але якое можа быць стаўленьне да гэтага «Очищения»?! — не стрымаўся Домаш. Яны займаюцца зборам плётак і наагул узялі на сябе функцыі кантралёраў. «Я хачу папярэдзіць, — сказаў Сямён Домаш, — што ёсьць законы і адпаведныя дзяржаўныя органы, якія сочаць за захаваньнем законнасьці».

Аказваецца, нядаўна адзін з актывістаў «Очищения» хадзіў вакол дому сп.Домаша і распытваў суседзяў, колькі каштаваў рамонт дому і хто яго выконваў. Старшыня аблсавету растлумачыў, што пасьля забойства ягонага папярэдніка Арцымені, які ня меў аховы, КДБ і міліцыя запатрабавалі, каб ён, Домаш, перасяліўся ў жыльлё, якое можна добра ахоўваць. Таму С.Домаш здаў сваю кватэру і перабраўся ў асобны дом, дзе абсталяваны пакой для аховы.

Сямён Домаш, паводле ягоных словаў, мае доказы, што самыя неверагодныя чуткі ў горадзе распускаюць менавіта дзеячы саюзу «Очищение», сярод якіх, як ён зазначыў, ёсьць людзі, якім трэба самім ачысьціцца.

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

## Наваградцам — уласную гарэлку!

**У 1995 г. Навагрудак займее ўласны лікёра-гарэлкавы бровар. Штогод ён будзе выпрацоўваць 1 мільён 300 тысяч дэкалітраў моцных напояў.**

Чакаючы падзеі, наваградцы падзяліліся на два лягеры. Адным падавай без усялякіх фокусаў традыцыйную «Рускую». Тутэйшым жа патрыётам заманулася адшукаць старасьвецкія рэцэпты і паводле іх вырабляць новыя гатункі: «каралеўскую» гарэлку «Міндоўг» або «Магнацкую».

Яшчэ адзін бровар адчыніцца ў вёсцы Вялікае Мажэйкава Шчучынскага раёну. Але ён будзе слабейшы — усяго 300 тысячаў дэкалітраў у год. Дагэтуль у Гарадзенскай вобласьці яшчэ не было і пакуль няма ніводнага бровару. А мець іх вельмі выгадна. Па-першае, мужчыны Гарадзеншчыны гарэлку любяць. А па-другое, увесь акцызны падатак застаецца ў мясцовым бюджэце.

С.А.

# Чаму палякі ня хочуць аддаваць дзяцей у польскую школу?

**У сядзібу Саюзу палякаў нядаўна патэлефанаваў віцэ-прэм'ер Віктар Ганчар. Ён удакладняў, колькі грошай трэба вылучыць налета дзеля будаўніцтва ў Горадні польскай школы.**

Перад тым размова пра школу адбылася непасрэдна ў віцэ-прэм'ера, куды старшыня СПБ Тадэвуш Гавін быў запрошаны на сустрэчу разам з кіраўнікамі іншых нацыянальна-асьветных арганізацыяў. Акрамя таго, палякі памятаюць абяцаньне Лукашэнкі, які ў часе перадвыбарчай кампаніі сустракаўся з актывістамі Саюзу палякаў. Будучы прэзыдэнт пераконваў, што заўсёды ладзіў з палякамі, якіх у ягоным шклоўскім саўгасе нібыта «недзе з палову». Лукашэнка паабяцаў, што калі стане прэзыдэнтам, дык ніякіх праблемаў з польскімі школамі ў Беларусі ня будзе.

Палякі, аднак, не чакалі, пакуль урад раскашэліцца на цэлую школу. На Гарадзеншчыне больш за 11 тысяч дзяцей вывучаюць польскую мову. Напрыклад, у Горадні яна выкладаецца нароўні зь іншымі дысцыплінамі ў дзесяці клясах, яшчэ ў 10-ці клясах выкладаньне цалкам польскамоўнае, агулам у іх навучаецца каля 180 вучняў.

А неўзабаве ў горадзе распачнецца будаўніцтва першай у Беларусі польскай школы. Ёсьць пляц пад будоўлю, гатовы і праект. Канцэпцыя распрацаваная ў СПБ. Сэнс яе ў тым, каб стварыць у адным месцы польскі культурна-асьветны цэнтар. Сама школа разьлічана на 640 вучняў. Побач будзе садок на 70 дзяцей ды інтэрнат для таленавітых вучняў. Насупраць пабудуюць касьцёл. У школе будзе басэйн, паваліканы памераў залі і сталоўка, каб можна было ладзіць тут польскія вяселлі ды іншыя сьвяты. Дарэчы, фінансуе ўсё Польшча.

Ад нашага ўраду палякі спадзяюцца атрымаць грошы яшчэ на адну, гэткую ж самую школу. Яе зьбіраюцца будаваць у Вішняўцы — новым мікрараёне ў занёманскай частцы горада. Зусім нядаўна гарадзкія ўлады вылучылі для будоўлі пляцоўку. Насупраць вішнявецкай школы паставяць новы касьцёл.

Карацей кажучы, калі толькі ня здарыцца землятрус або да ўлады ня прыйдзе якое ГКЧП, абедзьве польскія школы будуць пабудаваныя. Між тым, усё больш надзённай робіцца праблема абыякавасьці самых палякаў да ўсяго гэтага. Польскія школы канечне будуць, а дзе будучыя вучні? Іх няма! — з горычу гаворыць Тадэвуш Гавін. Актывісты СПБ наракаюць, што мусяць хадзіць па кватэрах і ўпрошваць бацькоў аддаць дзяцей у польскія клясы. Але тыя ў большасьці адмаўляюцца. Сам сп. Гавін прыводзіць прыклады, калі польскія сем'і даводзіцца пераконваць часам па дзьве гадзіны, і яны ўсё адно не згаджаюцца, каб дзеці наведвалі не беларускую або нават расейскую, а менавіта польскую клясу. Напярэдадні навучальнага году тройчы давалі абвесткі аб прыёме ў польскія клясы ў самую тыражную рэклямную газэту «Гродненская ярмарка», якая штотыдня бясплатна дастаўляецца амаль у кожную гарадзенскую кватэру. На жаль, вынік быў нулявы, ніто не адгукнуўся.

Тадэвуш Гавін перакананы, што аднолькавая бяда і палякаў, і беларусаў, што яны паддаліся русыфікацыі. Пра гэта ён нядаўна гаварыў, выступаючы перад актывістамі польскага руху. Пасьля сьмерці Сталіна палякі на Віленшчыне здолелі адваяваць і польскія школы, і газэту, няхай яна і была органам ЦК КПЛ. А вось у Беларусі палякі не супрацьстаялі сыстэме і праспалі свой шанец, лічыць Т.Гавін, і цяпер усё даводзіцца распачынаць з нуля. Русыфікацыя палякаў адбіваецца сёньня на ўсім. У Горадні жыве недзе каля 60 тысяч палякаў, у гарадзенскім аддзеле Саюзу — 2,5 тысячы сяброў. Тымчасам падпісчыкаў на газэту *Głos znad Niemna* — друкаванага органа СПБ — усяго 800. Невялікія вынікі дае і агітацыя за падпіску перад набажэнствам у Фарным касьцёле. Наклад газэты зьнізіўся да сямі зь лішкам тысяч асобнікаў (75% выдаткаў фінансуе беларускі ўрад). «Дзе ж тыя палякі? — рытарычна пытаецца Т. Гавін. — Калі ня ўмееш чытаць па-польску, дык хоць падпішыся дзеля патрыятызму. Ніхто не дапаможа палякам, калі яны самі ня будуць краташца. Законы (аб адукацыі ды іншыя) ёсьць, трэба толькі ўмець іх выкарыстаць...»

Прадбачу, што некаторыя будуць іранізаваць наконт абыякавасьці й нацыянальнай нясьведамасьці нашых палякаў. Але ўзгадайце, як яшчэ зусім нядаўна мы самі хадзілі па кватэрах агітаваць за беларускія клясы. Канфармізм зрабіўся другой натурай нашага народу. Як толькі сама дзяржава пачала пакрысе праводзіць дэрусыфікацыю школьніцтва, большасьць бацькоў гэта ўспрыняла нармальна, а можа папросту абыякава. Дапускаю, што калі б замест гэтага сталі рабіць паланізацыю, дык усё магло б быць таксама ціха. Але ж у нас ня польская краіна, а беларуская. Спадзяюся, што і людзі нашыя зусім не прымітыўныя. Яны, мабыць, усьвядомілі, што, скончыўшы беларускую школу, іхныя дзеці атрымаюць вышэйшую адукацыю таксама ў нацыянальных інстытутах, унівэрсытэтах, акадэміях. Адбыўся ўдар па русыфікацыі ў людзкой сьвядомасьці.

Дзеячы СПБ таксама думаюць пра будучыню. Зразумела наперад, што ўсе выпускнікі польскіх школаў не паедуць у Польшчу па вышэйшую адукацыю. Таму яны будуць дамагацца польскага ўнівэрсытэту ў Беларусі. Іхнай упартасьці можна адно пазайздросьціць: беларусы Беласточчыны і блізка нічога падобнага не спадзяюцца мець. У Менску ўжо існуе польскі камэрцыйны ўнівэрсытэт. Мяркую, гэта не пашкодзіць беларушчыне. У выніку Беларусь часткова пазбудзецца сваёй ганебнай савецкасьці. На маю думку, польскі ўплыў рэальна можа крыху аслабіць моц расейскага «магніту», да якога мы прыліплі намёртва, як кансэрвавая бляшанка. Як я разумею, у польскіх школах змогуць вучыцца ўсе ахвотныя, балазе самі палякі ня надта пакуль да гэтага імкнуцца.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Консульства шукае двумоўнага шафёра

**Генэральнае консульства Польшчы, якое неўзабаве адчыніцца ў Горадні, шукае сёньня ў цэнтры горада памяшканьне для свайго бюро, а таксама супрацоўнікаў.**

Консульства абвясьціла конкурс на пасаду сакратаркі-перакладніцы. Ад кандыдатак патрабуецца, апроч вышэйшай адукацыі і знаёмства з камптутарам, вельмі добрае веданьне польскай, беларускай, а таксама адной з заходнеэўрапейскіх моваў. Будучая сакратарка-перакладніца павінна мець яшчэ й прыемнае аблічча. Консульства таксама прыме на працу шафёра-мэханіка, ад якога зноў-такі патрабуецца ведаць польскую й беларускую мовы. Пра расейскую мову, як бачым, ня згадваюць, паколькі яе і так усе ведаюць.

С.А.

## Кепскія жарты з гуманітарнай дапамогай

**У Менск на адрас сталічнай філіі Саюзу палякаў Беларусі паступіла гуманітарная дапамога.**

Старшыня філіі вырашыў, што на грузе можна будзе няблага зарабіць. Ён наняў грузавік, каб вывезьці й прадаць атрыманую гуманітарную дапамогу, але ў выніку апынуўся за кратамі.

А.Б.

# Спадар прэзыдэнт, вы ўжо не дырэктар саўгасу...

*З пастановы №5 новага Кабінэту міністраў: «Прасіць Нацыянальны банк сумесна зь іншымі банкамі забясьпечыць вылучэньне дадаткова льготных крэдытных рэсурсаў».*

Гаворка йдзе пра крэдыты агракомплексу і Мінгандлю. Сума — больш за 2 трлн. рублёў (цяпер — 263 млрд. рублёў). Такім чынам, кабінэт М.Чыгіра пачаў з таго, чым заканчвалі ягоныя папярэднікі — з вылучэньня астранамічных крэдытаў сельскай гаспадарцы. ВКебіч у свой час тлумачыў гэта тым, што, маўляў, калі не дапаможам сялянам грашыма, ня скупім ураджай, давядзецца класьці зубы на паліцу. Бадай, толькі Нацыянальны банк у асобе С.Багданкевіча спрабаваў тады супраціўляцца курсу, які адназначна можна ахарактарызаваць як самагубства.

Здавалася б, пры новай уладзе штосьці зьменіцца. Аднак бачым усё тое ж выкручваньне рук. Сумы крэдытаў агракомплексу ня меншыя за тыя, што «дарыў» урад Кебіча. Але што цікава: шэф Нацыянальнага банку ўжо не выступае супраць, а, наадварот, заяўляе, што аграрнікі атрымаюць крэдытаў гэтулькі, колькі папросяць. 231 мільярд рублёў з 263 дакляраваных ужо выдадзены. Як зразумець С.Багданкевіча? Ці ягоная пазыцыя зьмянілася, ці ён ужо ня «рыначнік»?

Задаць гэтыя пытаньні самому С.Багданкевічу не ўдалося: ён цяпер у адпачынку. Ягоны ж намесьнік У.Сідараў заяўляе: «Пазыцыя старшыні Нацыянальнага банку не зьмянілася. Ён згадзіўся на вылучэньне крэдытаў толькі пад ціскам абставінаў. У прыватнасьці, сёлетняй засухі».

Разам з тым сп. Сідараў не сумняваецца, што з прычыны новай крэдытнай эмісіі курс даляра зноў падскочыць.

Пры гэтым (самае сьмешнае) дабра сельскай гаспадарцы крэдыты не прынясуць. Да прыкладу: калі калгас атрымае 10 мільёнаў, дык рэальна будзе мець 5. Тлумачыцца проста — выкід незабясьпечаных грошай адразу абясцэньвае грашовую масу. Улічваючы, што крэдыты даходзяць непасрэдна да калгаса ў сярэднім за месяц (а бывае, і даўжэй), аграры атрымліваюць зусім ня тыя сумы, на якія спадзяваліся. Пакуль сума залічваецца на рахунак — цэны вырасьлі. Выснова: патрэбныя новыя крэдыты, каб выплаціць старыя. Пра якое разьвіцьцё гаспадаркі тут казаць...

Урад сьцьвярджае: крэдыты забясьпечаныя таварам, г. зн. ураджаем сельскагаспадарчых культураў. Але так могуць гаварыць ці людзі, недасьведчаныя ў пытаньнях эканомікі, ці вельмі хітрыя (хутчэй, апошнія). Сельгаспрадукцыя — тавар спэцыфічны, адразу ў абарачэньне ён ня пойдзе, а грошы — яны ўжо выпушчаныя. У такім разе, падкрэсьлівае У.Сідараў, лепш гандляваць «сьнікерсамі» — абарачэньне вельмі хуткае.

Нідзе ў сьвеце дзяржава не скупляе ўсяго, што вытварана вёскай, на карані. У нас гэта звычайная практыка. Збожжа, малако, мяса, бульба, лён, караняплоды — закупляецца літаральна ўсё. Гэтым пасьляхова маглі б займацца перапрацоўчыя прадпрыемствы. Але амаль увесь іхны прыбытак забіраецца дзяржавай, бо яны — прадпрыемствы дзяржаўныя. Абрасьці тлушчам ім не даюць і не давалі ніколі.

Цяжка сказаць, што прымушае прэзыдэнта Лукашэнку захоўваць статус-кво у гэтым пытаньні. Настальгія па сваёй саўгаснай мінуўшчыне? Тады яму трэба як мага хутчэй нагадаць, што ён ужо не дырэктар саўгасу, а прэзыдэнт краіны.

Праўда, можна гэта растлумачыць зразумелым жаданьнем пакінуць усё пад сваім кантролем. Калі закупам сельгаспрадукцыі зоймуцца камэрцыйныя банкі (якія і павінны гэта рабіць), калі гаспадаркі ўтвораць разам зь перапрацоўнікамі акцыянэрныя таварыствы, а перапрацоўнікі стануць плаціць за мяса-малако рэальную цану (і ня заўтра, а сёньня), дык чым будзе кіраваць прэзыдэнт? Лічы, цэлая галіна народнай гаспадаркі выйдзе з-пад бацькоўскай рукі Аляксандра Рыгоравіча. А выпускаць, відаць, ня хочацца.

Хоча таго прэзыдэнт ці не, але сваімі крэдытнымі экспэрымэнтамі ён заганяе нашу эканоміку яшчэ глыбей у яму. Уздыму гаспадаркі, лічаць у Нацыянальным банку, чакаць проста сьмешна. У гэтым сьвятле вельмі цікава выглядаюць спробы стварыць антыкрызысную праграму. Пры захаваньні такой крэдытнай палітыкі гэта ня мае ніякага сэнсу.

Трэба сказаць, што 263 мільярды — яшчэ ня ўсё. Апрача гэтага, адчыненыя крэдытныя лініі на закуп у рэзэрвы масла, сухога малака, збожжа і г.д. — усяго на 72 мільярды рублёў. Зь іх Мінгандлю вылучаецца пакуль толькі 65 .

Асобнае пытаньне: чаму грошы ідуць так доўга? Каратка кажучы, пэўны час яны пракручваюцца ў камэрцыйных структурах, урэшце трапляюць на валютную біржу, дзе шляхам штучнага уздыму курсу даляра прымаюць свае пачатковыя аб'ёмы. Пасьля гэтага, нарэшце, даходзяць па прызначэньні. Мімаходзь узбагачаюцца ўсе, хто толькі мае магчымасьць. Усе, апрача сельскай гаспадаркі. Няўжо Лукашэнка, прызнаны змагар з карупцыяй, гэтага ня ведае? Сумнеўна.

У нас ніколі ня будзе рэальных грошай, пакуль Нацыянальны банк бескантрольна друкуе папяровыя банкноты. А ён вымушаны гэта рабіць, бо ўраду трэба больш грошай, чым ён атрымлівае ад падаткаў. Падаткаў жа ня можа быць шмат пры застоі ў эканоміцы і недастатковасьці валавога нацыянальнага прадукту. Аксыёма. Але як цяжка яна даходзіць да некаторых!

**Андрэй ШАВАНДА**

# Даляр: рос, расьце і будзе расьці

У 1992-1993 гг. рост курсу СКВ да беларускага рубля адлюстроўвау працэсы ў эканоміцы краіны. Яны характарызаваліся спадам вытворчасьці, ростам інфляцыі, уцёкамі ад грашовай адзінкі, якая станавілася ўсё таньнейшая.

Характэрная дэталь гэтага пэрыяду — даволі марудны рост курсу ў першым паўгодзьдзі 1992 г. і вельмі бурны — у другім. Напрыклад, за першае паўгодзьдзе курс даляра ўзрос на 3,2%, што можна растлумачыць адносна невысокімі тэмпамі інфляцыі наагул і неразьвітасьцяй валютнага рынку ў прыватнасьці. У другім жа паўгодзьдзі курс даляра падскочыў ажно на 332%. «Абвал» рубля можна вытлумачыць толькі рэзкім павелічэньнем грашовай масы пры рэальным спадзе вытворчасьці. Зразумела, што лішак нічым не забясьпечаных рублёў, не знаходзячы паважнага напаўненьня, скіроўваецца на набыцьцё самага высокаліквіднага ў нашых варунках тавару, а менавіта — даляра. Па сутнасьці, гэты пэрыяд можна лічыць пунктам адліку ў гісторыі, якая яшчэ ня скончылася.

У 1993 г. агульная карціна росту курсу СКВ захавалася. Пры гэтым рост за першае паўгодзьдзе склаў больш за 244%, а ўжо ў другім — 412%. Пераломным момантам можна лічыць выняцьце з абарачэньня рублёў узору 1991 г. Тады курс беларускага рубля ўпаў удвая — прыблізна да 2250.

Пачатак 1994 г. пазначаны кароткачасовым зьніжэньнем курсу, выкліканым прапагандысцкімі заявамі пра хуткае аб'яднаньне грашовых сыстэмаў Расеі і Беларусі. Пэрыядычна ўзьнікалі чуткі й гучалі заявы высокапастаўленых асобаў з гэтай нагоды. Адпаведна вагаўся і курс паводле схемы: «чутка — масавае «скідваньне» валюты ў надзеі на абмен 1:1 — чутка не пацьвярджаецца — масавая скупка валюты па любым курсе». І так неаднойчы. Ясна, што на гэтым скалочваліся вельмі някепскія капіталы. Непасрэдных фактаў няма, але існуе вэрсія, што «ваганьні» курсу арганізоўваліся.

Толькі ў сярэдзіне сакавіка курс СКВ пачаў упэўнены рух угару. Часовыя прыпынкі тлумачыліся недахопам беларускай наяўнасьці. Адной з прычынаў росту былі крэдытныя эмісіі Нацыянальнага банку, скіраваныя на пагашэньне запазычанасьці Расеі за энэрганосьбіты і ў сельскую гаспадарку. Як можна меркаваць, такую практыку захаваў і новы ўрад. Свае практычныя задачы ён пакуль вырашае коштам насельніцтва, коштам далейшага развалу фінансава-крэдытнай сыстэмы краіны.

**Андрэй СЯРЖАН**

*(Матэрыял падрыхтаваны з дапамогай экспэртаў АКБ «Комплекс»)*









# Узьяднаньне Беларусі з «Газпромам»

**Каб ня быць падобным да Вячаслава Кебіча, які прапагандаваў ідэю *«аб'яднаньня»* з Расеяй, Аляксандар Лукашэнка заяўляе, што лепей будзе не аб'ядноўвацца, а *«ўзьяднацца»*. І гэты працэс ужо пачаўся. «Узьяднаньне» адбываецца, так бы мовіць, па частках.**

СВАБОДА паведамляла, як падчас візыту прэзыдэнта Лукашэнкі ў Маскву расейскі бок прапанаваў Беларусі, каб яна перадала Расеі ў якасьці выплаты запазычанасьці за энэрганосьбіты ўсе транзытныя газаправоды, якія праходзяць праз нашую краіну. Беларускі бок заявіў тады, што «не гатовы» абмяркоўваць гэтае пытаньне. Каб хутчэй зрабіць беларускае кіраўніцтва «гатовым», Расея чарговы раз выкарыстала ўлюбёны прыём эканамічнага шантажу: зноў прыйшла тэлеграма, што пастаўкі газу ў Беларусь могуць быць прыпыненыя.

Выгоднае геастратэгічнае становішча Беларусі, дзе ня толькі перакрыжоўваюцца асноўныя шляхі зносінаў паміж Расеяй і Заходняй Эўропай, але і вызначаюцца шмат якія вайсковыя й палітычныя праблемы кантынэнту, выклікае ва ўсходняга суседа непрыхаванае імкненьне пашыраць эканамічную й палітычную залежнасьць Беларусі ад Расеі. З дапамогаю прарасейскага лёбі рабіліся розныя захады дзеля інкарпарацыі нашае дзяржавы ў склад Расеі («адзіная эканамічная прастора», «калектыўная бясьпека», «рублёвая зона» ды інш.), але пажаданага для аўтараў эфэкту не далі.

Залежнасьць найбольш гарантуе прывязка беларускай экономікі вылучна да расейскіх нафты й газу. Прарасейская накіраванасьць папярэдняга, дый цяперашняга, урадаў дазваляюць рабаваць беларускія прадпрыемствы, дзяржаву і народ шляхам паставак прадукцыі ў Расею па клірынгу за нафту й газ. Так, у 1993 г. страты ад клірынгу склалі толькі для МТЗ 69 млрд. руб. і для МАЗа 49,6 млрд. руб. Экспэрты падлічылі, што ў 1994 г. нашыя страты ад клірынгу з Расеяй могуць скласьці 437 мільёнаў даляраў ЗША (з прычыны таго, што цэны на клірынгавую прадукцыю зь Беларусі заніжаныя, а на расейскія нафту й газ — завышаныя). Тымчасам прапановы БНФ ды іншых арганізацыяў, якія стаяць на пазыцыях беларускай дзяржаўнасьці, шукаць альтэрнатыўных пастаўшчыкоў і крыніцы энэргіі, будаваць Балтыйска-Чарнаморскі нафтавы калектар ўлады адкідалі і адкідаюць.

У чым жа прычына такой, здаецца, «неразумнай» палітыкі беларускага кіраўніцтва? Няўжо сапраўды сьвятая любоў да суседняй краіны? Але ж сёньня ўжо ні для кога не сакрэт, што расейскую нафта-газавую прамысловасьць кантралююць недзяржаўныя структуры (у кіраўніцтва якіх, праўда, увайшлі дзяржаўныя чыноўнікі самага высокага ўзроўню). СВАБОДЗЕ стала вядома, што апошнім часам, пасьля таго як найбольш прыкметныя беларускія нафтагазавыя камэрсанты з ураду Кебіча пачалі «сыходзіць» з палітычнай арэны, адлаведныя дзяржаўныя інстытуты зацікавіліся іхнымі расейскімі «куратарамі». Аналіз паказвае, што беларускія газаправоды, ды і ўсю газавую прамысловасьць зьбіраюцца перадаць расейскаму акцыянэрнаму таварыству «Газпром».

Расейскае акцыянэрнае таварыства «Газпром» было ўтворана ўказам Б.Ельцына ад 5.11.1992 г. на базе аднайменнага газавага канцэрну, якім кіраваў В.Чарнамырдзін. Сёньня АТ «Газпром» кантралюе здабычу больш чым 95% усяго расейскага прыроднага газу, займаецца здабычаю нафты й газавага кандэнсату. Ва ўласнасьці АТ «Газпром» знаходзіцца комплекс газаздабыўных, транспартных і перапрацоўчых прадпрыемстваў, шэраг падземных нафтагазасховішчаў, а таксама буйныя банкі накшталт «Імпэрыялу». Паводле ацэнак экспэртаў, толькі замежныя активы «Газпрому» складаюць каля 40 млрд. даляраў ЗША (а ўсе залатыя й валютныя рэзэрвы Расеі складаюць 5,6 млрд. даляраў). Прамысловая сыстэма «Газпрому» здольная здабываць і транспартаваць спажыўцам каля 600 млрд. кубічных мэтраў газу. АТ «Газпром» зьяўляецца, па сутнасьці, галоўным пастаўшчыком прыроднага газу ў Эўропу. Па сваіх магчымасьцях і аб'ёме ўласнасьці «Газпром» — адна з самых магутных транснацыянальных карпарацыяў у сьвеце.

У найвышэйшых палітычных сфэрах Беларусі й Расеі добра вядома, што гэтае АТ ня толькі ўплывае на нутраную й замежную эканамічную палітыку Расеі, але і дыктуе яе, аказваючы ўціск на агульную эканамічную сытуацыю ў Эўропе, найперш — у асноўных газаспажыўных краінах.

Для пашырэньня эканамічнага й палітычнага ўплыву «Газпром» набывае ўласнасьць (перадусім — непасрэдна зьвязаную зь дзейнасьцяй АТ) за межамі Расеі. Важнае мейсца займае тут Беларусь.

Здаецца, ужо зразумела, каму зьбіраюцца перадаць беларускія газаправоды. А каб гэты працэс быў як мага больш «законны», расейскі бок уносіць наступны варыянт аднаго з артыкулаў праекту «Дагавору аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусяй і Расейскай Фэдэрацыяй»: «... *Бакі... будуць усямерна спрыяць развіцьцю сувязяў паміж гаспадарчымі суб'ектамі, стварэньню транснацыянальных кампаніяў і фінансава-прамысловых групаў ды каапэрацыі прадпрыемстваў, аб'яднаньняў і банкаў, вытворцаў і спажыўцоў прадукцыі на аснове свабоднага перамяшчэньня тавараў, паслугаў, капіталаў і рабочай сілы*». Наколькі вядома, менавіта ў такім выглядзе і зьбіраецца падпісаць гэтую дамову А.Лукашэнка. Дарога да ўключэньня Беларусі ў імпэрыю «Газпрому» адчыняецца.

Трэба адзначыць, што гэты працэс ужо «пайшоў», і даволі актыўна. Так, «Газпром» пачаў будаваць на тэрыторыі Беларусі **уласны** газаправод «Ямал—Заходняя Эўропа». Чытач, магчыма, памятае, што дамаўляліся пра гэта асабіста прэзыдэнты Ельцын і Валэнса. Маўчаньне Кебіча з Шушкевічам пры адкрытым ігнараваньні беларускіх інтарэсаў яшчэ год таму выклікала пытаньні. «Газпром» сёньня фактычна трымае кантрольны пакет у створаным разам зь Берасьцейскім заводам газавай апаратуры сумольным беларуска-расейскім акцыянэрным таварыстве, валодае велізарным падземным газасховішчам у Беларусі. Але самае галоўнае — улучэньне ў склад «Газпрому» Беларускага дзяржаўнага прадпрыемства транспартаваньня й пастаўкі газу «Белтрансгаз». Магчыма, што яшчэ будзе дэталёва вызначана, хто, як і навошта ўдзельнічаў у гэтай «справе». Зараз можам адзначыць, што 9 магістральных газаправодаў даўжынёй 5061 км аддадзеныя расейскаму фінансава-тэхнічнаму монстру. Зямля пад імі здадзеная ў арэнду на 99 гадоў.

Відавочна, што продаж нашай краіны «Газпрому» будзе працягвацца. Ёсьць зьвесткі, што наступнымі аб'ектамі стануць нафтаперапрацоўчыя й хімічныя прадпрыемствы Беларусі.

**Валянцін ФЕДАРОВІЧ**



Малюнак Лявона РАЗЛАДАВА

## Пра нас напішуць у Гвінэі

**Паводле зьвестак зь Міністэрства замежных справаў, у Беларусі акрэдытаваліся замежныя журналісты.**

70 працэнтаў іх — прадстаўнікі расейскай прэсы. Але ёсьць карэспандэнты з краінаў Балтыі, Польшчы, нават Анголы і Гвінэі. Некаторыя журналісты маюць акрэдытацыю «па сумяшчальніцтве», як, напрыклад, карэспандэнт з Эгіпту, які жыве ў Вільні.

Акрэдытацыйны дакумант каштуе журналісту ўсяго 500 рублёў.

**А.Д.**

## У Фонду Сораса зьмяніўся статус і кіраўніцтва

**З верасьня ў Менскім інфармацыйна-культурным цэнтры за зачыненымі дзьвярыма прайшоў IV зьезд Фонду Сораса-Беларусь (ФСБ). Яго ўдзельнікі пастанавілі зьмяніць найменьне арганізацыі, якая з гэтага часу будзе называцца Рэспубліканскае грамадзкае аб'яднаньне «Беларускі Фонд Сораса». Новая назва адлюстроўвае зьмены ў статусе й структуры фонду.**

Як вядома, падчас свайго травеньскага візыту ў Менск Джордж Сорас пастанавіў надаць ФСБ самастойны статус: канчатковыя рашэньні фінансаваць праекты й праграмы будзе прымаць Управа фонду ў Менску. Новы склад Управы, зацьверджаны ўдзельнікамі зьезду, узначаліў Алег Манаеў, дырэктар Інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў.

Сродкамі масавай інфармацыі будзе займацца новы сябра Управы, менскі карэспандэнт расейскай рэдакцыі радыё «Свабода» Юры Дракахруст. На выніковай прэс-канфэрэнцыі сп. Дракахруст паабяцаў, што для фонду, як і раней, прыярытэтным будзе супрацоўніцтва зь незалежнымі mass-media. На ягоную думку, гэта вельмі важна цяпер, калі дзяржаўны кантроль за СМІ ня проста захаваўся, а ўзмацніўся. У якасьці прыкладу выступоўца згадаў адхіленьне ад працы рэдактаркі з радыё сп-ні Процькі, чые выказваньні ў адрас прэзыдэнта не спадабаліся новаму шэфу беларускага радыё Уладзімеру Ядранцаву.

Выканаўчы дырэктар фонду Элізабэт Смэдлі, праўда, адзначыла, што ў апошнія два месяцы ўмовы для працы фонду палепшыліся, стала лягчэй знаходзіць агульную мову зь дзяржаўнымі чыноўнікамі. Дарэчы, праз некалькі дзён міс Смэдлі вернецца ў Злучаныя Штаты, дзе, трохі адпачыўшы і пазагараўшы, зойме больш высокую пасаду: каардынатар фондаў Сораса для краінаў былога СССР.

Між іншым, паводле агенцтва Reuter, сам амэрыканскі міліярдэр і філянтроп Джордж Сорас набыў прыканцы жніўня 9 % акцыяў аднаго з найбуйнейшых банкаў Калюмбіі Banco de Colombia, нягледзячы на тое, што сёлета кампанія Сораса Quantum мелася страціць болей за 600 млн. даляраў у выніку гандлёвага канфлікту паміж ЗША і Японіяй. Відаць, справы ідуць ня так і кепска.

**Вінцук ШОСТКА**

# Булак-Балаховіча шукалі, каб адпомсьціць

Пэўная частка жаўнераў генэрала Балаховіча пасьля звальненьня з інтэрнацыйных лягераў атрымала зямельныя надзелы на ўсходзе Польшчы. Шмат хто зь іх знайшоў сабе хлеб на лясных працах у Белавескай пушчы, у ваколіцах Беластока й Гайнаўкі. Браты Язэп і Станіслаў Балаховічы былі супольнікамі тартаку (лесапільні) у Гайнаўцы, дзе працавала шмат іх колішніх падначаленых. Наступіла мірнае жыцьцё.

Менавіта ў згаданых раёнах пачаліся таямнічыя забойствы сярод вэтэранаў дабрахвотнай арміі. Бальшыня гэтых крывавых здарэньняў так і не дачакалася высьвятленьня, аднак пра адно зь іх мы ведаем крыху больш за астатнія. Так, сярод іншых ахвяраю замаху стаў брат Станіслава, ген. Язэп Булак-Балаховіч. Праз два дні пасьля забойства ў друку зьявілася наступнае паведамленьне:

*«Забойства ген. Б.-Балаховіча.*

*Уначы з 12 на 13 чэрвеня [1923 г.] быў забіты генэрал Язэп Булак-Балаховіч — брат генэрала Станіслава Булак-Балаховіча.*

*Абставіны забойства наступныя:*

*Язэп Булак-Балаховіч з былым ротмістрам Перамыкіным ехаў уначы на фурманцы са станцыі ў Гайнаўцы да Белавежы. Дарога йшла лесам.*

*Каля першай гадзіны начы на паўдарозе зь лесу выйшлі на дарогу некалькі асабнёў. Першы зь іх меў пры сабе электрычны ліхтар.*

*Кіруючы сьвятло ліхтара проста ў твар ген. Язэпа Булак-Балаховіча, незнаёмы запытаўся:*

*— Каторая гадзіна?*

*— Перш прымі сьвятло, — адказаў Булак-Балаховіч.*

*У гэты момант зь цемры прагучаў стрэл з карабіну. Куля трапіла генэралу ў твар і забіла яго на месцы. Нападнікі кінуліся ў лес і зьніклі.*

*Сьледзтва у гэтай справе праводзіць бельская крымінальная паліцыя.*

*Значна менш папулярны за свайго брата Станіслава, генэрал Язэп Булак-Балаховіч, аднак, быў вядомы як чалавек беззаганнай адвагі і таленавіты ваенны партызан. Нябожчыку споўнілася ўсяго толькі 28 год.*

*Астатнім часам Язэп Булак-Балаховіч трымаўся здаля ад палітычнай працы, жыў у Белавежы, займаўся перавозкамі дзяржаўнага лесаматар'ялу зь лесу да станцыі ў Белавежы.*

*Паводле чутак, забойства Язэпа Булак-Балаховіча належыць разглядаць як замах на ягонага брата. Гэтае дапушчэньне пацьвярджае факт: шэсьць тыдняў таму на гэтай самай дарозе ў лесе ўначы была затрымана фурманка, на якой разам з тутэйшым лясьнічым ехаў Станіслаў Булак-Балаховіч.*

*Запытаўшыся ў падарожнікаў, хто яны, чацьвёра ўзброеных бандытаў нікога не кранулі толькі таму, што Булак-Балаховіч пасьпеў вырваць маўзэр і настаяць яго на незнаёмцаў, якія, заўважыўшы гэта, прыкінуліся паліцыянтамі і схаваліся ў лесе».*

Сьледзтва высьветліла, што апісаныя здарэньні былі справаю савецкай выведкі, якая шукала спосабу адпомсьціць балахоўцам.

Польска-савецкая мяжа была ў тыя часы вельмі «празрыстая». Выключна праўдзівы вобраз дачыненьняў, што панавалі тады ў польска-савецкай памежнай паласе, дае Сяргей Пясэцкі ў сваіх аповесьцях «Каханак Вялікай Мядзьведзіцы» і «Багам ночы роўныя». II Аддзел Генэральнага Штабу сярод былых жаўнераў дабрахвотнай арміі меў шмат агентаў, але й іншы бок таксама ня спаў. Такім чынам, ішла несупынная вайна выведкаў, якая часта сканчалася крывёю. Тыя савецкія правакатары, у якіх зямля гарэла пад нагамі, уцякалі ў Саветы, а па дарозе — для павелічэньня заслугаў — забівалі былых таварышаў па зброі.

З данясеньняў II Аддзелу мы даведаемся, што ген. Балаховічам аляякуецца рэфэрат нацыянальнасьцяў гэтага аддзяленьня і, будучы ў кантакце з ген. Балаховічам, утрымлівае ў ягоным асяродзьдзі ўласнага канспіратара... Зважаючы на акружэньне генэрала і акалічнасьці, цяжка ўявіць сабе нешта іншае. Нікому нельга давяраць. Зрэшты, працавіты агент неўзабаве паведаміў, што генэрал падтрымлівае кантакты з пасланцом Японіі, які прапанаваў ген. Балаховічу тры пакоі на сваёй віле. Больш таго, японскі дыплямат «згадаў між радкамі, што на Далёкім Усходзе для такога слаўнага партызана, як ген. Балаховіч, знайшлася б праца...» Такога тыпу данясеньняў агент здаў некалькі.

Балаховіч меў фінансавыя цяжкасьці, выкліканыя дапамогаю беспрацоўным балахоўцам, якіх з большым ці меншым посьпехам ён наймаў на працу ў ваколіцах Белавежы. 13 сьнежня 1926 г. ён зьвярнуўся да шэфа II Аддзелу Генэральнага Штабу па зварот маёмасьці ягонай і ягонага аддзелу, які перайшоў разам зь ім мяжу ў сакавіку 1920 г. Там былі коні, абозы, амуніцыя, зброя, іншы рыштунак і ваенныя трафэі.

Пасьля заканчэньня ваенных дзеяньняў і эвакуацыі інтэрнацыйных лягераў генэрал адчуваў непарыўную повязь са сваімі падначаленымі і прыняў на сябе абавязак арганізаваць ім жыцьцё ў мірных варунках. Апрача асадніцтва на ўсходніх рубяжох, якое дазволіла забясьпечыць існаваньне некалькім тысячам балахоўцаў, ён закладае першы Камісійна-гандлёвы дом афіцэраў запасу (суполка з абмежаванай адказнасьцяй), дзе прымае на працу былых афіцэраў, перадусім з уласнага войска.

Ён неабыякава ўспрымаў бягучыя палітычныя падзеі і палічыў сваім абавязкам адрэагаваць на выступ у Сойме пасла Браніслава Тарашкевіча — прадстаўніка Беларускага пасольскага клюбу, які 23 сакавіка 1923 г. з пасольскай трыбуны запатрабаваў перагляду ўсходняй межаў Рэчы Паспалітай і прыгразіў «дымам пажараў і попелам братняй крыві». Балаховіч выслаў яму адкрыты ліст (ад 11 красавіка 1923 г.) з пратэстам супраць гэтага выступу і прыгадаў, што сам Тарашкевіч 7 красавіка 1921 г. як сябра былой Найвышэйшай Беларускай Рады разам з некалькімі іншымі выдатнымі прадстаўнікамі беларускіх палітычных арганізацыяў складаў урачыстую прысягу, дзе ўласнаручным подпісам пацьвердзіў, што будзе працаваць разам з Балаховічам на карысьць беларускага народу ў межах РП і ў шчыльным кантакце з Францыяй. Тады яны разам кляліся стаць на варце карысьці Айчыны, аберагаць яе ад усялякіх нападаў нутраных і вонкавых ворагаў, што імкнуцца парушыць спакой на ўсходніх крэсах РП, даваць ім адпор і г. д.

У гэтым лісьце Балаховіч салідарызуецца з пазыцыяй Беларускага Камітэту на чале з Дубейкаўскім і Ладновым — гэты камітэт, праўдападобна, займаў лаяльную да Польшчы пазыцыю.

Станіслаў Булак-Балаховіч напісаў на беларускай мове працу «Перш, пакуль голас свой даць, ты павінен прачытаць!», выдадзеную ў Берасьці у 1928 г. (11 старонак, каталёг польскай Нацыянальнай бібліятэкі №1.542.677), але адзіны вядомы выдавецкі асобнік загінуў ў варшаўскай Нацыянальнай бібліятэцы. А ў іншых бібліятэках, зь якімі Нацыянальная бібліятэка падтрымлівае кантакты, яго таксама няма.

Цяжка акрэсьліць палітычны сьветапогляд генэрала Балаховіча. Падчас ваенных дзеяньняў ён абвяшчаў лёзунгі дэмакратыі й роўнасьці, яму даводзілася суадносіць свае пагляды з праграмамі палітыкаў, зь якімі сутыкаў яго лёс.

*(Далей будзе)*

**Пераклад з польскай.**

**Урыўкі з кнігі:** *Marek Cabanowski. Generał Stanisław Bułak-Bałachowicz. Warszawa, 1993.*

**Працяг. Пачатак у №№32,33.**

# Віншуем спадарства з Днём беларускай вайсковай славы!

## Праграма 8-га каналу

**Аўторак, 6 верасьня**

18.00 «Забытае кіно?..» «Вышыня».
18.35 Студыя «Інтэкс»: «Навіны».
19.45 Мультфільм У.Дыснэя.
20.20 Тэлесэрыял «Праект Афрадыта». 2-я сэрыя.
21.10 Кірмаш.
21.40 Шанц-прыз.
21.55 Маст. фільм «Халоднае лета 53-га» (Расея).

**Серада, 7 верасьня**

18.00 «Забытае кіно?..» «Колер граната».
19.15 БАНТ. Рэпартаж.
19.20 Нямецкая хваля.
19.50 СОЛТЭК. Навіны.
20.00 Мультфільм У.Дыснэя.
20.30 «ПіР».
20.40 «Праект Афрадыта». 3-я сэрыя.
21.50 Маст. фільм «Трэба забіць гэтае каханьне» (Польшча).
23.20 Гарадзкі гадзіньнік. Навіны.

**Чацьвер, 8 верасьня**

18.00 «Забытае кіно?..» «Шлюб паітальянску».
19.40 БАНТ. Рэпартаж.
19.45 Мультфільм У.Дыснэя.
20.15 «ПіР».
20.30 «Праект Афрадыта». 4-я сэрыя.
21.20 Да ведама.
21.35 Маст. фільм «Дарэмныя пошукі Сюзэн».

**Пятніца, 9 верасьня**

18.00 Канцэрт групы «Кава з малаком».
19.00 СОЛТЭК. Дорэміфасолькі.
19.05 Мультфільм У.Дыснэя.
19.40 «Праект Афрадыта». 5-я сэрыя.
20.30 Гарадзкі гадзіньнік. Навіны.
20.40 Foxy music (паўтор).
21.35 Час мясцовы.
21.55 Маст. фільм «Чырвоная дама» (ЗША).
23.20 Гарадзкі гадзіньнік. Навіны.

**Субота, 10 верасьня**

15.00 «Забытае кіно?..» «Бадзяга» (Індыя).
17.30 Казаньнік Кенэт Коўпленд.
18.00 Мультфільм У.Дыснэя.
18.35 «Праект Афрадыта». 6-я сэрыя.
19.30 СОЛТЭК. Спартовая мазаіка.
20.00 Фірма «Кедбэры» і ММ-4 прэзэнтуюць музычную праграму з удзелам Крыса Дэ Бурга.
21.20 Скрыжаваньне.
21.40 Маст. фільм «У аб'ектыве сьмерць» (ЗША).

**Нядзеля, 11 верасьня**

15.00 Маст. фільм «Герой залатога наверша».
16.45 Мультфільмы.
17.45 СОЛТЭК: «Пік».
18.15 Маст. фільм «Кветка ў пыле» (Індыя).
20.40 Спорт-сакрэт.
21.10 Маст. фільм «Не бядуй» (Грузія).
22.40 Foxy music.

## Праграма каналу НТВ

**Аўторак, 6 верасьня**

17.00 Мультфільмы.
17.30 «Энцыкляпэдыя дзівосаў, або Вы хацелі даведацца пра гэта». Фільм 72-гі.
18.00 і 21.00 «Сёньня».
18.35 Адкрыты чэмпіянат ЗША ў тэнісе.
19.15 «Напалеон». 2-я сэрыя.
21.40 «Майсей-заканадаўца». 2-я сэрыя.
22.35 Часінка.
23.05 «Машына часу»: Ціхі канцэрт.

**Серада, 7 верасьня**

17.00 Мульфільм.
17.30 «Энцыкляпэдыя дзівосаў, або Вы хацелі даведацца пра гэта». Фільм 73-ці.
18.00 і 21.00 «Сёньня».
18.35 «Непадсуманыя вынікі».
19.15 Мультфільм для дарослых.
19.20 «Дуэль».
21.40 «Майсей-заканадаўца». 3-я сэрыя.
22.35 Часінка.
23.05 Адкрыты чэмпіянат ЗША ў тэнісе.
23.55 Кавярня «Абломаў».

**Чацьвер, 8 верасьня**

17.00 Мультфільмы.
17.30 «Энцыкляпэдыя дзівосаў, або Вы хацелі даведацца пра гэта». Фільм 74-ы.
18.00 і 21.00 «Сёньня».
18.35 Адкрыты чэмпіянат ЗША ў тэнісе.
19.20 «Заснуўшы».
21.40 «Майсей-заканадаўца». 4-я сэрыя.
22.35 Часінка.
23.10 «Песьня пра чырвонага напарстачніка», «Баба».

**Пятніца, 9 верасьня**

17.00 Мультфільмы.
17.30 «Энцыкляпэдыя дзівосаў, або Вы хацелі даведацца пра гэта». Фільм 75-ы.
18.00 і 21.00 «Сёньня»
18.35 Футбольны клюб.
19.15 «Белы крумкач».
21.40 «Майсей-заканадаўца». 5-я сэрыя.
22.35 Часінка.
23.10 Адкрыты чэмпіянат ЗША ў тэнісе.
0.00 «Заапарк, ноч».

**Субота, 10 верасьня**

17.00 Мультфільмы.
17.15 Трэцяе вока.
18.00 «Сёньня».
18.35 «Ключы ад форту Баярд». 30-ы вып.
19.55 «Непадсуманыя вынікі».
20.25 «Шпікі-аматары экстра-клясы». 3-я сэрыя.
21.00 Надоечы.
21.45 Аўтаспорт: найвышэйшыя дасягненьні.
22.00 «Праклядцьце Дзюран».
23.05 Адкрыты чэмпіянат ЗША ў тэнісе.
1.05 Музычны кірмаш.

**Нядзеля, 11 верасьня**

17.00 «Я вас кахаў...»
18.35 Тэлегадзіна «Майстэрства жыць».
19.05 Мультфільм.
20.00 Вынікі.
21.10 «Цудоўная сямёрка»
23.30 Адкрыты чэмпіянат ЗША ў тэнісе.
2.00 Анонс тыдня.

# Беларускія літаратурныя піраты заваёўваюць Расею

Пра бізнэс Адама Глёбуса піша *International Herald Tribune*

Амэрыканскія аматары клясычнага раману Маргарэт Мітчэл «Зьнесеныя ветрам», як вядома, мусілі задаволіцца адзіным санкцыянаваным працягам гэтага славутага твору, бэстсэлерам 1991 г. «Скарлет» Аляксандры Рыплі.

Аднак амаль у кожным маскоўскім кніжным кіёску расейскія чытачы маюць магчымасьць набыць кнігі пад такімі спакусьлівымі назвамі, як «Мы завем яе Скарлет», «Таямніца Скарлет О'Хары», «Рэт Батлер», «Таямніца Рэта Батлера» і «Апошняе каханьне Скарлет».

Бальшыня гэтых раманаў-працягаў прыпісваецца пяру нейкай Юліі Хілпатрык, але ў іхных сюжэтах адчуваецца штосьці нязвыкла змрочнае і славянскае. У «Апошнім каханьні Скарлет», напрыклад, амаль усе пэрсанажы паміраюць, у тым ліку Скарлет і Рэт.

Рэч у тым, што пад «ірляндзкім» псэўданімам «Юлія Хілпатрык» хаваецца каля 30 расейскіх і беларускіх пісьменьнікаў зь Менску, што супольна штампуюць адну за адной кніжкі, якія грунтуюцца на дэкарацыях і пэрсанажах «Зьнесеных ветрам», як, зрэшты, і дзясяткаў іншых твораў, для якіх пішуцца несанкцыянаваныя працягі й раманізацыі. Бальшыня гэтых пісьменьнікаў — мужчыны.

«Мы робім гэта, каб папросту зарабіць грошай, — кажа Ўладзімер Адамчык (псэўданім — Адам Глёбус. — *Рэд.*), беларускі пісьменьнік, які са сваім братам Міраславам стварыў у Менску індустрыю сэрыялаў-працягаў. — Я не аддаю перавагі ніводнай кніжцы. Мне падабаюцца яны ўсе, калі толькі прыносяць грошы».

І яны іх сапраўды прыносяць. Першыя два тыдні жніўня кніга «Мы завем яе Скарлет» Юліі Хілпатрык займала другое мейсца ў сьпісе бэстсэлераў расейскага штотыднёвіка «Книжный бизнес». Па ўсёй Маскве са столікаў кніжных гандляроў на вас пазіраюць падабенствы Вівіен Лі і Клярка Гейбла. Гуртовы кошт аднаго асобніка вагаецца ў межах 2-3 $, што амаль удвая перавышае кошт «Скарлет» Рыплі і, калі хочаце, «Братоў Карамазавых» Дастаеўскага.

«Я ніколі ня чула пра нешта падобнае, — кажа Марсі Поснэр, віцэ-прэзідэнт і дырэктар у справах міжнародных правоў агенцтва Ўільяма Морыса, якая рэпрэзэнтуе спадчыну Маргарэт Мітчэл. — Гэта проста неверагодна». Яна дадае, што гэтыя кнігі-працягі — рэч незаконная, бо, згодна з амэрыканскімі законамі, аўтарскія правы пашыраюцца і на пэрсанажаў.

Амэрыканскія чытачы, мусіць, не адразу б пазналі надзвычай жыццярадаснага героя Мітчэл у шматпакутным вобразе, зьлепленым камандай аўтараў Адамчыка. У некаторых эпізодах кнігі «Апошняе каханьне Скарлет» Рэт Батлер больш нагадвае Раскольнікава са «Злачынства і пакараньня». Адамчык, паэт, чые творы зьявіліся на старонках расейскіх літаратурных часопісаў, ухіліўся ад адказу на пытаньне, як ягоная каманда аўтараў піша гэтыя кніжкі і як выпрацоўваюцца сюжэты. Ён сказаў, што гэта «камэрцыйная таямніца». Але бізнэс ідзе досыць добра, што дазволіла Адамчыку выправіцца на 20 дзён у Барсэлёну, каб адпачыць і заняцца паэзіяй. Паводле ягоных словаў, ён выбраў Гішпанію, бо працягвае «традыцыю Хэмінгуэя».

Група Адамчыка таксама публікуе раманізацыі, у тым ліку змрочныя літаратурныя інтэрпрэтацыі папулярнай мыльнай опэры «Санта Барбара» і незьлічоных фільмаў з Клінтам Іствудам.

Стварэньне працягаў твораў літаратуры й кіно, вядома ж, рэч ня новая. Аднак бальшыня аўтараў і выдаўцоў старанна абараняюцца ад падобных імітацыяў. Як кажа Поснэр, калі ў Францыі ды Італіі пачалі зьяўляцца літаратурныя стылізацыі «Зьнесеных ветрам», юрысты ў справах маёмасьці падавалі на іхных аўтараў у суд і перамагалі.

Расейскія інтэрпрэтацыі пакуль што самыя нахабныя. Расейскія экспэрты кажуць, што прыцягнуць Адамчыка і ягоных калегаў да суда будзе цяжка, бо несанкцыянаваныя працягі, згодна з расейскім заканадаўствам, ня ёсьць адкрытае пірацтва, бо ў пэўным сэнсе іх можна лічыць арыгінальнымі творамі, хоць і вытворнымі.

«Мы вырашылі іх не перасьледаваць, бо гэта ні да чога не прывядзе», — кажа Генадзь Кузьмінаў, прадстаўнік таварыства «Аўтары і выдаўцы супраць пірацтва», якое групуе 20 расейскіх выдавецтваў.

Адамчыка гэтая праблема, здаецца, зусім не хвалюе. «Я ня думаю, што раблю нешта крымінальнае. Пра гэта было шмат размоваў, — дадае ён, маючы на ўвазе незаконнасьць свайго бізнэсу, — але яшчэ ніхто пэрсанальна на мяне ня скардзіўся».

Маскоўскія распаўсюднікі Адамчыка, аднак, пачуваліся няёмка пры размове на гэтую тэму. «Мы мелі пэўныя падазраньні, — сказаў Нікалай Науменка, галоўны рэдактар маскоўкага выдавецтва АСТ. — Яны не маглі нас пераканаць, што гэта абсалютна законны бізнэс». Ён паскардзіўся, што кніжкі-працягі былі кепска напісаныя, і згадзіўся, што яны не зусім адпавядалі літары расейскіх законаў. Але, — дадаў ён, — яны былі вельмі прыбытковыя.

Нібы просячы прабачэньня, Науменка сказаў, што расейскі выдавецкі бізнэс пакуль яшчэ «менш цывілізаваны», чым заходні, і паабяцаў выправіць становішча. «Мы цяпер маем магчымасьць выдаваць добрыя кнігі легальным шляхам, — заўважыў ён. — Мы ўжо не працуем з тымі людзьмі».



**Адам Глёбус у адной з кавярняў Барсэлёны**

Адна з рэдактараў іншага выдавецтва, якое таксама распаўсюджвае працягі «Зьнесеных ветрам», яшчэ менш прыхільна выказалася пра аўтараў гэтых сэрыялаў. «Я думаю, што гэтых людзей трэба пасадзіць у турму, — сказала Натальля, рэдактар дзіцячай літаратуры ў выдавецтве «Эрыка», якая згадзілася на размову толькі з умоваю, што ня будзе згадвацца ейнае прозьвішча. — Яны і ім падобныя панізілі ўзровень пісьменства нашай краіны».

Але здаецца, што апэтыт славянаў на драмы амэрыканскага поўдня спатоліць немагчыма.

Вольга, гандлярка з найбуйнейшага ў Маскве кніжнага рынку пры Алімпійскім стадыёне, дзе вулічныя гандляры і ўладальнікі кнігарняў закупляюць кнігі гуртам, гаворыць, што расейцы абагаўляюць Маргарэт Мітчэл. Яна вымушаная прадаваць імітацыі, хоць робіць гэта вельмі неахвотна. «На маю думку, ёсьць толькі адныя «Зьнесеныя ветрам», — кажа яна. — Усё астатняе — гэта проста спосаб зарабіць грошы».

У часы камунізму расейцы рэдка мелі магчымасьць прачытаць «Зьнесеных ветрам», бо дазвалялася пашыраць кнігі толькі зацьверджаных савецкіх пісьменьнікаў. Клясычную экранізацыю 1939 г. расейскія гледачы здолелі ўбачыць толькі ў 1991 г. Яна імгненна стала сэнсацыяй. Было прададзена гэтулькі пірацкіх перакладаў кнігі Рыплі «Скарлет», што калі афіцыйны пераклад зьявіўся ў кнігарнях, яго ўжо мала хто хацеў купляць.

Расейскія інтэлектуалы горка скардзяцца на несупынную плынь нізкапробнае заходняе культуры. Але ёсьць прыкметы, што элітарныя расейскія выдаўцы таксама зьбіраюцца ўвайсьці на рынак сэрыялаў-працягаў. Адно з найбольш рэспэктабэльных расейскіх выдавецтваў «Vagrius» ужо падпісала кантракт з аўтарам, які зьбіраецца напісаць працяг да «Вайны і міру» Льва Талстога. Імя аўтара трымаюць у таямніцы. Для расейцаў Леў Талстой — гэта бог, і выдаўцы баяцца, што людзі спаляць ягоны дом.

**Аляксандра СТЭНЛІ,**
***International Herald Tribune*, 30.08.1994**
**(перакладзена са скаротамі)**

## Слонімскім сьвіньням пашанцавала

**Як толькі прэзыдэнт абвясьціў, што заваліць беларускі люд камбікармамі, жыхары Слоніма кінуліся ў свае ЖЭСы запісвацца ў чаргу.**

Аднак іх чакала расчараваньне: з гарвыканкаму паведамілі, што атрымалі ўсяго 23 тоны камбікармоў, а ў чарзе 2 тысяч ахвочых. На кожны двор атрымліваецца толькі па 10 кг.

Тымчасам з Глыбокага Віцебскай вобласьці нам паведамляюць, што там прадалі толькі па 5 кг камбікармоў. Такім чынам, можна лічыць, што слонімскім сьвіньням яшчэ пашанцавала.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Наручнікі для старшыні калгасу

**У калгасе «Слава працы» Дзятлаўскага раёну вось ужо тыдзень пануе безуладзьдзе.**

Сяляне ў разгубленасьці: на іхных вачох у кайданках у бок Менска павезьлі старшыню калгасу Белага і яго намесьніка Махніцкага. Арыштаваныя і некаторыя работнікі бугалтэрыі.

А пачалося ўсё зь візыту ў Дзятлаўскі раён сьледчай групы па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцяй, якая выявіла ў калгасе «Слава працы» шматлікія афэры. Міліцыя апячатала дом старшыні каля Казлоўшчыны і ягоную сядзібу пад Менскам.

**Валодзя ЯНЧУК**

## «Шалёная» вёска

**Вёска Кульбакі Лідзкага раёну абвешчана неспрыяльнай з-за шаленства.**

Райвыканкам прыняў такое рашэньне пасьля некалькіх выпадкаў захворваньняў сабак у гэтай вёсцы. Складзены плян акцыяў па ліквідацыі агмяня шаленства. Да акцыяў далучаныя міліцыя й таварыства паляўнічых.

**В.ГУК**



## Невукаў усё болей

**Згодна з вынікамі дасьледаваньня, праведзенага варшаўскім Цэнтрам вывучэньня грамадзкае думкі, 56% палякаў не прачыталі сёлета ніводнае кніжкі, а 19% не чытаюць нават газэтаў.**

Кіно ў чатыры разы менш папулярнае за відэа. Толькі 15% палякаў выбраліся сёлета ў кінатэатры, тымчасам як відэафільмы глядзелі 75%. Выдае на тое, што за апошнія два гады ў Польшчы добра-такі пабольшала паўпісьменных людзей.

*Gazeta Wyborcza*



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 5.09.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 1276 © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая Наклад 45 000

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12